*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№16 травень 2012**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## У праваабаронцаў Праваабарончага Цэнтру «Вясна» забіраюць офіс




***Кватэра,у якой знаходзіцца офіс Праваабарончага Цэнтру «Вясна» паводле рашэння суда, на дадзены момнат падлягае канфіскацыі. Пра гэта праваабаронцам паведамілі судовыя выканаўцы.***

***Тым не менш, праваабаронцы заявілі, што Праваабрончы Цэнтр “Вясна” будзе працягваць сваю дзейнасць. Будзе паўнавартасная праца, не зніжаючы сваю эфектыўнасць, але, магчыма, ужо не з гэтага памяшкання.***

***Усе раней апісаныя падчас арышту рэчы знаходзяцца ў офісе.***

***Кіраўнік ПЦ “Вясна” Алесь Бяляцкі быў асуджаны ў лістападзе 2011 года на 4,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Яго звінавацілі ў нявыплаце падаткаў з замежных рахункаў, інфармацыя аб якіх была перададзеная пракуратурамі Польшчы і Літвы. Гэтыя сродкі прызначаліся на праваабарончую дзейнасць. Бяляцкі намінаваны шэрагам еўрапейскіх палітыкаў і арганізацый на Нобелеўскую прэмію міра.***

## У Мінску затрыманы Алег Волчак



Міліцыянты спынілі праваабаронцу ў раёне сталічнай плошчы Бангалор і запатрабавалі праехаць з імі ў аддзяленне ўнутраных спраў Цэнтральнага раёна.

Разам з праваабаронцам міліцыянтамі быў спынены і актывіст аргкамітэта Партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Зміцер Кухлей.

Напачатку бягучага года кіраўнік ініцыятывы “Прававая дапамога насельніцтву” Алег Волчак ужо быў затрыманы міліцыяй. Тады праваахоўнікі склалі на Волчака адміністрацыйны пратакол, а сам праваабаронца адбыў на Акрэсціна чацвёра сутак.

## У Гародні забаронены пікеты ў падтрымку “польскай” школы



Гэтым разам заяўкі на чатыры пікеты падавалі жыхары Гародні, якія дамагаліся захавання моўнага рэжыму ў школе № 36. Гэтую школу гараджане называюць “польскай”, паколькі навучанне ў ёй вялося на польскай мове. Зараз бацькі навучэнцаў школы занепакоіліся тым, што адміністрацыя Ленінскага раёну Гародні вырашыла адчыніць у школе рускамоўныя класы, і паспрабавалі пратэставаць на пікетах.

Аднак улады гораду адмовілі ім у гэтым праве, патлумачыўшы адмову тым, што заяўнікі не ўзгаднілі правядзенне пікетаў з міліцыяй і іншымі службамі. Таму некаторыя жыхары гораду занепакоеныя тым, што польскамоўную школу можа напаткаць лёс беларускамоўных.

У 1990-х гадах у Гародні палова школаў былі беларускамоўнымі. У сярэдзіне 90-х паўстала і першая польскамоўная. Але зараз у горадзе над Нёманам няма аніводнай беларускамоўнай школы. У польскамоўнай жа плануецца ўвесці класы нават не з беларускамоўным навучаннем, а менавіта з рускім.

## Вольгу Панасевіч зьбівалі нагамі і ставілі ў позу «ластаўкі»




5-га чэрвеня ў Слоніме распачнецца судовы працэс супраць актывісткі ствараннай Партыі БХП Вольгі Панасевіч. Яе вінавацяць у дробным хуліганстве і ў тым, што яна не падпарадкавалася міліцыянтам. Днямі міліцыянты затрымалі Панасевіч па дарозе дадому і даставілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

Прэсавая служба БХД адзначае, што ў ізалятары Вольгу ставілі ў позу «ластаўкі», кідалі на падлогу і білі нагамі.

На кабету склалі адміністрацыйны пратакол нібыта за дробнае хуліганства і за тое, што яна не падпарадкоўвалася міліцыі.

Панасевіч зафіксавала траўмы і накіравала скаргу ў пракуратуру, якая перанакіравала зварот ў Сьледчы камітэт.

Аднак у Сьледчым камітэце складу злачынства ў дзеяннях міліцыянтаў не знайшлі.

## У Гародні грамадскія актывісты судзяцца з гарвыканкамам



У Ленінскім раённым судзе Гародні ідзе разгляд скаргі мясцовых грамадскіх актывістаў Вадзіма Саранчукова, Юрыя Істоміна і Уладзіміра Хільмановіча. Гарвыканкам за подпісам намесніцы старшыні Ірыны Сенчанковай адмовіў заяўнікам у правядзенні мітынгу 25 сакавіка. У сваёй адмове гарвыканкам спасылаўся на тое, што заяўнікі нібыта парушылі частку 4 артыкулу 5 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь”. Заява, якая была паслана заказным лістом яшчэ 7 сакавіка, зарэгістраваная ў гарвыканкаме была чамусьці толькі 12-га сакавіка.

Грамадскія актывісты просяць таксама прызнаць неканстытуцыйным рашэнне Гарадзенскага гарвыканкаму ад 19 кастрычніка 2011 году, якое вызначае месцы правядзення масавых мерапрыемсдваў у горадзе. На думку заяўнікаў яно мае выразна дыскрымінацыйны характар і наўпрост супярэчыць і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

# За мурам

***Кожны раз, калі даводзіцца на некаторы час пакідаць Беларусь, вяртаешся з нейкім чаканнем станоўчых пераменаў. Гэтае пачуццё не грунтуецца абсалютна ні на чым, акрамя, як падсведамым і натуральным жаданні ўбачыць нешта іншае, лепшае. Вось і зараз, тыдзень не бачыўшы ні тэлевізара, ні газет, ні кампутара, з пэўным трымценнем у душы улучыў інтэрнэт і стаў глядзець розныя сайты.***

Аднак, цуды на гэтым свеце здараюцца не так часта. Навіны ўсё ж тыя: вось за бел-чырвона-белы сцяг, які нёс у руках звычайны хлопец Андрэй Моўчан на знак падтрымкі асуджанага Сяргея Каваленкі, прадстаўнікі міліцыі жорстка яго збілі. Збілі так, што зламалі сківіцу. І натуральна паўстае пытанне: хто гэтыя людзі з дзяржаўных структур – "ахоўнікі парадку" ці бандыты кшталту фашыстоўскіх эсэсаўцаў?! Дык якую перамогу і над кім нядаўна святкавала ўся Беларусь? Вось хапаюць праваабаронца і былога "афганца" Алега Волчака і валакуць у турму на чарговыя суткі арышту нібыта за брыдкаслоўе. Вось яна – "павага" да ветэранаў вайны! У той час як на вуліцах сапраўды лаюцца брудным матам скрозь і паўсюдна, але шматлікая міліцыя на гэта не рэагуе. У міліцыі ў самой – гэта працоўная мова, яны па-іншаму і размаўляюць з цяжкасцю.

Перад прыездам у Мінск "высокага госця" Уладзіміра Пуціна сілавыя структуры ўзяліся "зачышчаць" горад ад "Маладога фронту". Іх генеральная мэта – увогуле ачысціць Беларусь ад беларусаў. Знішчыць усіх беларускамоўных беларусаў. А астатніх пераўтварыць, перарабіць у расійцаў, "саўкоў", манкуртаў. Як што – на дапамогу гатовыя прыйсці маскоўскія "сілы калектыўнай бяспекі", расійская дзяржаўная дума ўжо ратыфікавала адпаведнае пагадненне. І прыезд Пуціна мусіць яшчэ раз зацвердзіць курс на няўхільнае, як ім здаецца, "аб'яднанне".

Вяртаючыся ў Беларусь, чарговы раз заўважаеш, што мы апынуліся за мурам, які аддзяляе нашу краіну ад еўрапейскай цывілізацыі. І гэты мур, які ўжо знікаў у сярэдзіне дзевяностых гадоў, зараз толькі расце. Не скажу, што мне асабліва падабаецца цяперашняе развіццё Еўропы. Невыпадкова там таксама перажываюць амаль глабальны крызіс, а правы чалавека часам даводзяцца да абсурду. Але ж чалавек практычна ў кожнай еўрапейскай краіне з нараджэння мае права на годнае жыццё, на асноўныя чалавечыя свабоды. Адно вольнае перамяшчэнне праз мяжу бальшыні краін чаго варта! А вось, беларусы як у клетцы, вырвацца з якой няпроста. Нібыта і мяжа не зачынена як пры Савецкім саюзе, але для бальшыні атрымаць візу становіцца ўсё цяжэй, пераехаць граніцу – гэта таксама вялікая праблема. Даўжэзныя чэргі на аўтамабільных пераходах, кепская чыгуначная і аўтобусная камунікацыя, выбрыкі мытнікаў – усё гэта неад'емныя элементы кожнага падарожніка, які перасякае мяжу. Дэкларацыі пра малы транспамежны рух, якія гучалі адусюль, ужо даўно сталі папулярнай тэмай для анекдотаў. Затое Рэспубліка Беларусь падпісала безліч нейкіх пагадненняў у межах постсавецкіх міждзяржаўных структур, разабрацца ў якіх здольны не кожны. Але дастаткова паставіць простае пытанне – што дае практычна, прыкладам, бязвізавы ўезд жыхарам Беларусі ў Узбекістан, каб зразумець усю "тэарэтычнасць" і абсурднасць гэтых пагадненняў.




Вось у той жа Польшчы зараз напярэдадні футбольнага еўрачэмпіянату амаль хаос – дарогі развaленыя, недаробленыя, на іх вялікія заторы, на варшаўскіх вакзалах анархія. Даехаць кудысьці ў час амаль немагчыма. Але Польшча і Украіна хоць збіраюцца на гэтым чэмпіянаце зарабіць. І ўрэшце, магчыма, так і станецца. А што ў нас? У нас мае адбыцца чэмпіянат свету па хакеі ў 2014 годзе. Няма сумневу, што яго зробяць амаль узорным, дарогі і вуліцы "зачысцяць" ад лішніх машынаў і людзей, а лёдавыя палацы будуць перапоўнены, калі нават палова білетаў не прадасца. Вунь нават уезд замежнікаў у Беларусь напярэдадні гэтага чэмпіянату зробяць бязвізавым. Тут свая логіка, свае доказы правільнасці "сацыялістычнага курсу развіцця", як казалі некалі. Можна не сумнявацца, што карцінка будзе зроблена, як на маскоўскай алімпіядзе. Толькі тады за рысу гораду вывезлі ўсіх бамжоў і прастытутак, а зараз улада напэўна плануе перасяліць ў якія-небудзь "папраўчыя" лагеры ўсіх апазіцыянераў і іншадумцаў. І "за мурам" застануцца толькі чыстыя вуліцы і хакей…

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

***Гарадзеншчына, травень***

3 траўня ў міжнародны дзень свабоды прэсы была здзейснена правакацыя супраць незалежнага журналіста Андрэя Пачобута. Невядомыя расклеілі на пад’ездах дома, дзе ён жыве, абразлівыя плакаты. Раніцай на пад’ездзе дома, дзе ён жыве, невядомыя расклеілі плакаты з чорна-белым здымкам і подпісам «Асцярожна, педафіл!». Пачобут аднёс адну з улётак у міліцыю і напісаў заяву. ¨н мяркуе, што такім чынам яму ў чарговы раз адпомсцілі за ягоную грамадзянскую пазіцыю і журналісцкую дзейнасць. Журналіст не выключае, што за правакацыяй можа стаяць КДБ.

Суд Ленінскага раёну Гародні ўсё ж асудзіў грамадзяніна Уладзіміра Фяненку за нібыта непадпарадкаванне службовай асобе і адмову ад дактыласкапіі. Рашэнне суддзя Мікалай Сяргейка прыняў яшчэ 11 красавіка, асудзіўшы Фяненку да 20 базавых велічынь штрафу, што складае 2 мільёны беларускіх рублёў. Сам Фяненка на гэтым паседжанні не прысутнічаў, а атрымаў на рукі копію пастановы суду пра тое, што яго засудзілі толькі 30 красавіка. На рашэнне суду першай інстанцыі ён падаў скаргу ў абласны суд. Яшчэ 20 лютага бягучага году на Фяненку быў складзены завочны пратакол нібыта пра адміністрацыйнае правапарушэнне. У пратаколе было напісана, што ён “отказался от дактилоскопической регистрации, чем оказал неповиновение законным требованиям сотрудника ОВД”. На адваротным баку было напісана, што Фяненка адмовіўся ад подпісу. Але ён убачыў гэты пратакол толькі тады, калі яго выклікалі ў суд. Дакументы былі выразна сфальшаваныя супрацоўнікамі міліцыі, што заўважыў і суд на сваім першым паседжанні, перанёсшы разгляд справы. Пазней пратакол быў “дапрацаваны”, а суд не захацеў прыняць рэзонныя аргументы Фяненкі, узяўшы бок прадстаўнікоў міліцыі.

У судзе Ленінскага раёну Гародні 3 траўня прайшло апытанне бакоў паводле пазову грамадскіх актывістаў Вадзіма Саранчукова, Уладзіміра Хільмановіча і Юрыя Істоміна да Гарадзенскага гарвыканкаму. Суддзя Людміла Жукоўская высветліла сутнасць справы, выслухала пазіцыі бакоў і прызначыла скаргу да судовага разгляду на 15 траўня. Напомнім, што гарвыканкам забараніў грамадскім актывістам правядзенне мітынгу на Дзень Волі 25 сакавіка.



Чарговую адмову ў акрэдытацыі атрымаў гродзенскі журналіст Радыё Рацыя Віктар Парфёненка. Два месяцы таму ён накіраваў чацвёртую ўжо па ліку заяўку на акрэдытацыю ва ўпраўленне інфармацыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Адтуль доўга не было адказу, пакуль журналіст не стаў сам тэлефанаваць На гэты раз у адмове былі названыя іншыя пункты ў Парадку акрэдытацыі. Фактычна атрымаць афіцыйную акрэдытацыю немагчыма.

Гістарычны мікраёраен Новы Свет у Гародні за тыдзень страціў тры будынкі. Прыкладам 12 траўня быў зруйнаваны дом, які перад вайной пабудаваў гарадзенскі доктар Бяклемішаў па вуліцы Астроўскага, 15, яскравы прыклад “драўлянага” канструктывізму. Гарадзенскія ўлады працягваюць нішчыць гістарычныя будынкі.

Прадказальным незадавальненнем скаргі грамадска-палітычных актывістаў Юрыя Істоміна, Вадзіма Саранчукова і Уладзіміра Хільмановіча на мясцовы гарвыканкам скончыўся 16 траўня разгляд справы ў судзе Ленінскага раёну Гародні. Па адным з пунктаў скаргі суддзя Людміла Жукоўская вынесла асобнае вызначэнне, паколькі адмяніць рашэнне Гарадзенскага выканкама па вызначэнні месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе не ў кампетэнцыі суда раённага роўню. Па другім пункце скаргі суд узяў бок гарвыканкаму, палічыўшы, што заяўнікі мітынгу не выканалі заканадаўства, паколькі заяўка на правядзенне акцыі 25 сакавіка была зарэгістраваная ў выканкаме толькі 12-га сакавіка. Заяўнікі ж даводзілі ў судзе, што такая запозненая рэгістрацыя адбылася па віне дзяржаўных органаў. Ні суддзя Жукоўская, ні пракурор Неўмяржыцкая не захацелі ўзяць пад увагу і той факт, што гэта гарвыканкам наўпрост парушыў заканадаўства, не паведаміўшы ў вызначаны тэрмін заяўнікам пра рашэнне гарвыканкаму.

Гарадзенскі гарвыканкам працягвае ігнараваць і наўпрост парушаць Закон Рэспублікі Беларусь “Аб масавых мерапрыемствах”. Адмаўляючы грамадска-палітычным актывістам у правядзенні пікетаў ці мітынгаў, орган мясцовай выканаўчай улады дасылае афіцыйныя адказы са спазненнем, альбо ўвогуле іх не высылае. На 15 траўня актывісты АГП падавалі 5 заяваў на пікеты ў розных месцах гораду пад лозунгам “За справядлівыя выбары без Лукашэнкі”. Пра адмову ў правядзенні пікетаў гра-

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, травень*

мадска-партыйныя актывісты па ўжо звыклай завядзёнцы даведаліся толькі ад міліцыянтаў, якія наведвалі іх і папярэджвалі пра адміністрацыйную адказнасць за правядзенне несанкцыянаваных акцый. Пісьмовы адказ гарвыканкаму, як гэтага патрабуе заканадаўства, атрымаў толькі сябра АГП Сяргей Ліс, і то ў неадпаведны тэрмін – не за 5 дзён да заяўленага мерапрыемства – як сказана ў частцы першай артыкулу 6 Закону Рэспублікі Беларусь “Аб масавых мерапрыемствах”.

Старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму Сямён Шапіра ў прамой лініі з насельніцтвам Гарадзенскай вобласці на мясцовым канале тэлебачання заявіў, што “грамадскія слуханні па вырубцы дрэў, з-за таго, што іх ператвараюць у незразумелае палітычнае супрацьстаянне, вырашана больш не праводзіць”. Змаганне гарадзенскіх актывістаў супраць вырубкі старых дрэў у горадзе мае даўнішні і нават зацяжны характар. Для нейтралізацыі пратэстаў улады гораду падключылі ўвесь адміністратыўны рэсурс і сілавыя ведамствы. Таму, збольшага, пратэсты актывістаў сканчаліся затрыманнямі, судамі, і, як вынік – карамі. Тым не менш, супрацьстаянне заставалася, але на пэўным этапе пачало набываць, з боку ўладаў, злёгку цывілізаваны характар - было аб’яўлена, што па пытанні вырубкі дрэваў будуць праводзіцца грамадскія слуханні. Аднак, ужо на першых такіх слуханнях, праціўнікі вырубкі дрэў абвінавацілі гарадзенскія ўлады ў прымусовым набіранні тых людзей, якія прагаласуюць за лінію ўлады. Зараз жа старшыня Гарадзенскага аблвыканкама паставіў крыж нават на фармальных і паказных праявах дэмакратыі.

Гарадзенцу Руслану Пяцько прыйшла чарговая судовая адмова. Руслан абскарджваў у Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь рашэнні судоў ніжэйшых інстанцый, якія прызналі яго вінаватым у адмове прымусова праходзіць дактыласкапію прама на працоўным месцы. Судовае рашэнне і на гэты раз было не на карысць Руслана. У афіцыйных паперах ні слова не гаворыцца па сутнасці скаргі. Нават не разглядаюцца аргументы. Па сутнасці, амаль даслоўна Вярхоўны суд паўтарыў тое, што было сказана першым судом.

У Гародні забаронены пікеты ў падтрымку “польскай” школы. Заяўкі на чатыры пікеты падавалі жыхары Гародні, якія дамагаліся захавання моўнага рэжыму ў школе № 36. Гэтую школу гараджане называюць “польскай”, паколькі навучанне ў ёй вялося на польскай мове. Зараз бацькі навучэнцаў школы занепакоіліся тым, што адміністрацыя Ленінскага раёну Гародні пастанавіла адчыніць у школе расейскамоўныя класы, і паспрабавалі пратэставаць на пікетах. Аднак улады гораду адмовілі ім у гэтым праве, патлумачыўшы адмову тым, што заяўнікі не ўзгаднілі правядзенне пікетаў з міліцыяй і іншымі службамі.

Гарадскія ўлады забаранілі правядзенне ў Гародні канцэрта ў гонар беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Канцэрт арганізоўвала гродзенская суполка "Маладога Фронту". ¨н меўся адбыцца 24 траўня. З патрыятычнымі песнямі збіраўся выступіць вядомы гродзенскі панк-гурт "Кальян" і новы праект "Дзецюкі". “ Прадстаўнікі ўладаў сказалі, што Малады Фронт як незарэгістраваная арганізацыя не можа ладзіць ніякіх мерапрыемстваў.

25 траўня ў судзе Смаргонскага раёна быў пачаты разгляд скаргі грамадскага актывіста Мікалая Уласевіча на дзеянні капітана міліцыі Астравецкага РАУС В. Герасіма, які прыняў рашэнне пра ануляванне дазволу на права захоўвання Уласевічам паляўнічай стрэльбы. Яшчэ 15 лістапада 2011 года старэйшы інспектар па дазвальнай сістэме раёну прыняў пастанову і ў той жа дзень у Уласевіча забралі стрэльбу. Пры тым прадстаўнікі міліцыі палічылі, што нібыта ён парушыў артыкул 27 Закона “Аб зброі” у звязку з тым, што Уласевіч 25 жніўня 2010 года прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці і на момант вынясення заключэння пра ануляванне дазволу на захаванне стрэльбы, прынятае рашэнне суду па адміністрацыйнай справе не выкананае. Такія дзеянні прадстаўнікоў міліцыі Мікалай Уласевіч лічыць незаконнымі, таму і звярнуўся ў суд. Справу ў Смаргонскім раённым судзе пачала разглядаць суддзя А. Кіндра. Пасля таго, як яна пачала трактаваць адказы Уласевіча па сваім жаданні і настойваць на іншых фармулёўках, грамадскі актывіст патрабаваў дакладнага запісвання ў пратакол судовага паседжання сваіх адказаў, а затым заявіў хадайніцтва пра адвод суддзі. Суддзя задаволіла гэтае хадайніцтва. Калі працягнецца разгляд скаргі і хто яго будзе весці – невядома.

У чэрвені ў Слоніме пачнецца судовы працэс супраць актывісткі Партыі БХД Вольгі Панасевіч. Яе вінавацяць у дробным хуліганстве і ў тым, што яна не падпарадкавалася міліцыянтам. Міліцыянты затрымалі Панасевіч па дарозе дадому і даставілі ў ізалятар часовага ўтрымання. У ізалятары Вольгу ставілі ў позу «ластаўкі», кідалі на падлогу і білі нагамі. На кабету склалі адміністрацыйны пратакол нібыта за дробнае хуліганства і за тое, што яна не падпарадкоўвалася міліцыі. Панасевіч зафіксавала траўмы і накіравала скаргу ў пракуратуру, якая пераслала зварот ў Следчы камітэт. Аднак у Следчым камітэце складу злачынства ў дзеяннях міліцыянтаў не знайшлі, у звязку з чым пракуратура накіравала скаргу ў аддзел следчай бяспекі.

# Шаснаццаць год

***Шаснаццаць гадоў прайшло з таго часу, калі група аднадумцаў сабралася, каб утварыць арганізацыю, якая будзе дбаць пра людзей якія падвяргаюцца палітычнаму пераследу або церпяць за свае погляды і перакананні. “Вясна-96”. Такую далі назву гэтай арганізацыі вясной 1996-га году. Яе старшынём стаў ужо вядомы і дагэтуль адраджэнец і патрыёт Алесь Бяляцкі.***

Гэту арганізацыю, пасля актыўнага маніторынгу за выбарамі 2001-га году зачынілі. Фармальныя прычыны на тое, як заўсёды, знайшліся. Але праваабаронцы не спынілі сваёй дзейнасці. Ніхто, і аніякае заканадаўства не можа забараніць чалавеку стаць праваабаронцам і змагацца за правы іншых людзей. Беларускае заканадаўства таксама гэтага афіцыйна не забараняе.

Збор і распаўсюд інфармацыі пра затрыманых, інфармаванне грамадзкасці, маніторынг, змаганне ў судах, юрыдычныя кансультацыі, пошук адвакатаў, матэрыяльная дапамога пацярпелым… Гэта толькі дробны пералік той працы, які рупліва ўсе гэтыя гады рабілі праваабаронцы.

– Ніхто некалі не скажа, што ў гэты час тут ніхто нічога не рабіў, – заявіў у сваім заключным слове на паседжанні суда над ім нязменны кіраўнік гэта арганізацыі Алесь Бяляцкі.

Сапраўды, чаго варты быў бы народ, чаго вартая была б нашая нацыя, каб яна не мела сваіх праваабаронцаў, што гатовыя ахвяраваць дзеля высокіх ідэалаў. Ці меў бы такі народ перспектывы і будучыню, каб не меў ў сваёй нацыянальнай душы галоўных хрысціянскіх і агульначалавечых памкненняў, сярод якіх неперадольная прага і нават жыццёвая неабходнасць памагаць бліжняму, змагацца за справядлівасць, за свае погляды і перакананні, і самае галоўнае для праваабаронцы, бараніць права іншых за мажлівасць спавядаць іх погляды і перакананні, нават тады, калі сам гэтыя погляды не падзяляеш. Чаго варта была б краіна, каб не знайшлося ў ёй людзей, якія шчыра спачуваюць тым, каго пераследуюць, і тым, хто ў няволі.

Зараз кіраўнік “Вясны” сам адбывае зняволенне. “Моцна за мяне не перажывайце”, – піша ён з калоніі, як заўсёды больш заклапочаны тым, каб не перажывалі за яго іншыя, чым сваім цяперашнім не самым прываблівым станам. І нават у такой сітуацыі Алесь шукае мажлівасць выкарыстаць час з карысцю, бо вельмі цэніць жыццё, кожную яго хвіліну. – “Сёлета юбілей Максіма Танка, – дадае ён у сваім лісце з калоніі, – вось жа я хачу перачытаць яго”.

Алесь быў і ёсць сапраўдным натхняльнікам сваіх паплечнікаў. Шмат чаго здарылася і змянілася за гэтыя шаснаццаць гадоў. Але “вясноўцы” засталіся пры сваіх перакананнях і ідэалах. Беларуская мова, нацыянальныя і духоўныя каштоўнасці, гістарычная ды культурная спадчына, беларускія народныя традыцыі, і памяць… Памяць пра тых, хто змагаўся за лёс сваёй нацыі і вера ў лепшае будучае сваёй краіны. І для гэтай будучыні трэба перш за ўсё каб была справядлівасць. Справядлівасць, дзеля якой варта жыць і дзеіць.

У сённяшнім свеце хто толькі не называе сябе праваабаронцамі. Але ніхто не скажа, што вясноўцы незаслужана карыстаюцца гэтым велічным і чалавечным паняткам. Усе шаснаццаць год працы падцвердзілі гэта. Падцвердзілі гэтак жа, як і паплечнікі і аднадумцы з іншых беларускіх праваабарончых арганізацый, гэтак жа, як і калегі праваабаронцы з іншых краін, якія абралі вясноўца Алеся Бяляцкага віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека.

Быць праваабаронцам гэта так натуральна для кожнага чалавека. Нельга праходзіць ля чужой бяды і рабіць выгляд, што нічога не заўважаеш. Нельга заставацца з боку ад праблем грамадства. Нельга грэбаваць такой зразумелай кожнаму з’явай, як права чалавека. Права тваё, і права іншага. Нельга не прагнуць справядлівасці.

І таму вясноўцы ў свой шаснаццаты год нараджэння ўпэўненыя, што шэрагі праваабаронцаў на Беларусі будуць расці. І словы “Правы чалавека” стануць зразумелыя і натуральныя для кожнага беларуса. Бо для гэтага шмат зроблена, за гэтыя шаснаццаць гадоў.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на чэрвень 2012 году

**3 чэрвеня**

15 гадоў таму (1997) – У Атаве (Канада) памёр Янка Сурвілла, беларускі грамадзкі дзеяч, эмігрант (Нямеччына, Гішпанія, Канада). Нараджэнец в. Белевічы (Смургонскі р-н).

**4 чэрвеня**

165 гадоў таму (1847) – У Варшаве памёр Стафан Грабоўскі, вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794. Нараджэнец в. Асташына (Наваградзкі р-н).

60 гадоў таму (1952) – У Чыкага памёр Язэп Варонка, беларускі палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі (ЗША). Адзін з заснаваньнікаў у Гародні таварыства “Бацькаўшчына”.



**5 чэрвеня**

220 гадоў таму (1792) – Мястэчка Цырын атрымала герб.

**7 чэрвеня**

520 гадоў таму (1492) – У Гародні памёр Казімер Ягелончык, вялікі князь ВКЛ (1440-92).

**14 чэрвеня**

25 гадоў таму (1987) – У Лёндане памёр Кастусь Глінскі, юрыст, вязень савецкага канцлягеру, ваяваў у Арміі Андэрса, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія). У 1930-ых працаваў суддзём у Ашмяне.

15 гадоў таму (1997) – У Карэлічах прайшлі міжнародныя чытаньні, прысьвечаныя Ігнату Дамэйку. Заснаваньне ў Медзьвядцы музэя Дамэйкі.

**19 чэрвеня**

100 гадоў таму (1912) – У мяст. Радунь (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Пятро Бітэль, беларускі пісьменьнік, паэт, перакладнік, педагог, праваслаўны сьвятар.

**21 чэрвеня**

45 гадоў таму (1967) – У Вільні памёр Фэлікс Стацкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Грамады і ТБШ. Нараджэнец Шчучына.

**23 чэрвеня**

220 гадоў таму (1792) – Мястэчка Радунь (Вараноўскі р-н) атрымала герб.

**24 чэрвеня**

245 гадоў таму (1767) – У в. Асташына (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Стафан Грабоўскі, вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794.

200 гадоў таму (1812) – На Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася вайна 1812 году.

**25 чэрвеня**

360 гадоў таму (1652) – Мястэчка Жыровічы (Слонімскі р-н) атрымала Магдэбургскае права.

**26 чэрвеня**

80 гадоў таму (1932) – У Польшчы памёр Вінцук Гарасімовіч, беларускі грамадзка-рэлігійны дзеяч, рыма-каталіцкі сьвятар. Нарадзіўся ў 1870 у мяст. Мір.

**27 чэрвеня**

315 гадоў таму (1697) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Аўгуст II Моцны (кіраваў да 1733).

**28 чэрвеня**

80 гадоў таму (1932) – У в. Катчыно (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Пётр Марціноўскі, беларускі педагог, краязнавец, літаратуразнавец, кіраўнік Зельвенскага літаратурнага аб’яднаньня.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
травень 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

